адна зямля




# Рэгіянальная газета

7 чэрвеня 2013 года
№ 23 (945)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".



Гальшанскі замак "падрос" на тры метры за два месяцы

21-я старонка



Як не падмануцца на ўсходнім кірмашы

3-я старонка



## навіны рэгёна

### Чаго чакаць ад фестывалю "Адна зямля"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Фестываль "Адна зямля" пройдзе ў амфітэатры ў гарадскім парку ў нядзелю, 9 чэрвеня. Рэгістрацыя ўдзельнікаў пачнецца ў 9.00. У 10.30 запланавана жараб'ёўка. Адкрыццё адбудзецца ў 12.00, а выступаць выканаўцы 1-й і 2-й груп пачнуць у 12.30. У 15.00 выступіць ансамбль "Маладзечна". У 16.00 адновіцца канцэрт выступоўцаў: пачнуць спяваць старэйшыя ўдзельнікі 3-й і 4-й груп. У 18.00 выступяць запрошаныя госці, а ў 20.00 пройдзе ўзнагароджанне. Скончыцца фестываль "Адна зямля" святочным феерверкам.

### У восьмы раз пройдзе "Камарова – кола дзён"

**МЯДЗЕЛ.** У вёсцы Камарова на Мядзельшчыне ў восьмы раз збяруцца народныя майстры. Тут 22 чэрвеня пройдзе выстава-кірмаш народных рамёстваў і промыслаў "Камарова – кола дзён". У праграме свята запланаваныя выстава-продаж вырабаў народных майстроў, майстар-класы па ганчарстве, ткацтве, канцэртная праграма, забавы для дзяцей, паведаміла бухгалтар цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцтва "Камарова" **Наталля Нагорная**. Пройдзе выстава-кірмаш на тэрыторыі сядзібна-паркавага комплексу.

**Аддзел інфармацыі.**



# *Жупраны:* У доме састарэлых пахне кветкамі

**АШМЯНЫ. Калі вы хочаце пабачыць агідную старасць з бруднай бялізнай і раз'ядаючым скуру смуродам, то вам дакладна не ў Жупраны.**

Калі вы хочаце пабачыць годную старасць з рознакаляровымі шпалерамі і букетам кветак ў кожным пакоі, то вам якраз у Жупраны.

Тут вам яшчэ праспяваюць прыпеўкі, складуць пра вас песню і, калі пашанцуе, нават падораць самаробныя рукавіцы і шкарпэткі.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Зыгмунд Люля вялікі майстар да песень. Адну з іх ён склаў у гонар сацыяльнага работніка жупранскага аддзялення для састарэлых і інвалідаў Ядвігі Садоўскай.

### Пра што гавораць старыя людзі

У кожнага жыхара аддзялення свая гісторыя, якую ён гатовы даверыць удзячным вушам.

### Жанчына, якая ела ў суседзяў з-за фобіі агню

У першым пакоі нас сустракае 80-гадовая **Алена Шукеловіч**. Яна з ахвотай праспявала прыпеўкі адна за адной. А потым, як успамінала іншыя, падыходзіла і спявала яшчэ.

Аднак жанчына ніколі не хадзіла ў школу: сям'я жыла бедна, дзяўчынцы не было ў што абуцца.

На пытанне, аб чым шкадуе ў жыцці, жанчына адказвае:

– А што ж я пераробліў ужо? Ужо ж нічога не пераробіш...

У жанчыны фобія агню, таму яна ніколі не распальвала печ. Калі не засталося нікога са сваякоў, хто б клапаціўся пра яе, жанчына мерзла дома, а суседзі карміілі яе гарачым.

### Як пячы сапраўдную бабку

Яе суседка **Галіна Любчанка** – майстар рукадзелля, вяжа шкарпэткі і рукавіцы, умее вышываць. Яна ўпэўненая, што ў кожнага ёсць свой талент. А сама ўсё жыццё адпрацавала поварам.

Галіна Францаўна распавяла, што мала хто ўмее пячы сапраўдную бабку. А рабіць яе трэба так: надзерці бульбу з дзвюма цыбулінамі, уліць кубак сырадою, пасаліць і пячы на патэльні. Ніякае мяса туды не класці. А ўжо да бабкі падрыхтаваць яшчэ падліву – ці з таматам, ці з іншымі складнікамі.

– У мяне ёсць добры дом, але ж тут догляд. Дзеці мае ў Англіі, ім трэба жыць, яны маладыя. А я ўжо на зыходзе, таму тут, – каментуе жанчына.

Галіна Францаўна прыгадвае, што нейк унук спытаўся, што добрага для яе зрабіў муж. Яна адказвае і цяпер:

– Дваіх дзяцей мне падарыў.

### Пра скупога пана і чарвякоў у хлебе

83-гадовы **Зыгмунд Люля** ў дзевяць год пачаў пасвіць кароў у пана Альхімовіча на цяперашняй Смаргоншчыне. Пан быў вельмі скупы.

– На бэльскі складаў саланіну на будучае, а пастуху – шыш. Вацлаў Гайковіч, зяць пана, кажа мне, каб пільнаваў, як гаспадар паедзе на кірмаш. Я падглядзеў, дзе той схаваў ключы, і палезлі мы красці сала. Скралі мы крыху, пайшлі на поле, з'елі. А хлеба няможна было браць, ён нават на дачку крычаў, каб многа хлеба не ела. А другім разам мы сабраліся паесці, узялі хлеба. Як разрэзаў я – а там вермішэлі поўна, такі хлеб стары. Разумееш, што гэта? Не хачу гадзіць, гаварыць дрэннае. Там той саланіны мо тона была, так і пагніла потым.

Зыгмунд Іванавіч памятае, як некаторыя перажывалі вайну, а іншыя памяралі.

Пазней Зыгмунд Іванавіч навучыўся ў свайго швагра каваць. А яшчэ ён складае песні пра сваіх знаёмых. Ёсць своя песня для Ядвігі Садоўскай, а пакуль мы былі ў мужчыны, ён склаў песні і пра нас.

**Працяг на 5-й старонцы.**

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ДА 150-ГОДДЗЯ ПАЎСТАННЯ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

# Жыць у свабодзе

**У суботу, 1 чэрвеня, ва Уладыках непадалёк ад Ілыі мясцовая грамадскасць адкрыла адноўлены помнік паўстанцам 1863 года.**

Пад крыжам спачывае 121 удзельнік бою, які адбыўся тут паміж паўстанцамі і падраздзяленнем царскіх войск 28 мая 150 гадоў таму. Надмагільная пліта была тут пастаўлена ўпершыню ў 1933 годзе.

Аўтар праекта адноўленага помніка архітэктар з Вілейкі **Анатоль Капцюг**. Помнік адноўлены дзякуючы намаганням вілейскіх краязнаўчых суполак, ад імя якіх на адкрыцці выступілі **Аляксей Лужынскі** і **Дзяніс Канецкі**.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Зміцер Хаценчык (у цэнтры) расказвае пра тое, як праходзіў трагічны бой 150 гадоў таму тут, пад Уладыкамі. Тады ахвярамі расійскай ваеншчыны стаў 121 паўстанец.

Прысутныя, а іх сабралася некалькі дзясяткаў чалавек, з увагай выслухалі казанне ксяндза альковіцкага касцёла айца Анатоля, прасякнутае патрыятызмам і болем за тое, што мы часта больш шануем чужое, забываючыся на сваё.

Зміцер Хаценчык, які разам з Дзянісам Канецкім незадоўга да ўрачыстага дня выпусціў у выдавецтве "Кнігазбор" кнігу, прысвечаную паўстанню 1863 года на Вілейшчыне, расказаў прысутным аб ёй.

Побач, у адной абгародцы з магілай паўстанцаў, знайшлі свой спачын сем'і мірных жыхароў, якіх забілі фашысцкія карнікі ў час апошняй вайны. Валодзю Захарэвічу, які спачывае тут, быў усяго толькі год.

– Гэта святое, намоленае месца, – сказаў адзін з мясцовых жыхароў, які прысутнічаў на ўрачыстасці. – Можа, таму і пахавалі ў вайну з фашыстамі іх менавіта тут. Забілі за сувязь з партызанамі.

Нават калі гэта не так, бо ваенныя пахаванні часта рабіліся не там, дзе лепш, а дзе было магчымым, ёсць сімвалічнасць у повязі часоў. І касінеры-паўстанцы, і жыхары Уладык 70 гадоў таму хацелі жыць у свабодзе.

На адкрыцці помніка, акрамя мясцовых жыхароў і вяліччан, былі тыя, хто прыехаў сюды спецыяльна з Маладзечна і Мінска.

**Мікола ГАЙДУК.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## На Мядзельшчыне праходзіць дабрачынны марафон

**МЯДЗЕЛ. Цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі раёна праводзіць дабрачынны марафон "Крок насустрач", які будзе доўжыцца па 30 чэрвеня.**

Сабраныя падчас дабрачыннага марафону грошы прызначаны на набыццё спецыяльна абсталяванага аўтобуса для падвозу дзяцей-інвалідаў. Каштуе ён каля 230 мільёнаў рублёў.

– У нашым цэнтры пяць год функцыянуюць група і клас для дзяцей з цяжкімі парушэннямі развіцця. Дзякуючы гэтаму адзінаццаць хлопчыкаў і дзяўчынак атрымалі магчымасць паўнацэнна навучацца і развівацца, а іх бацькі могуць хадзіць на працу, займацца рознымі справамі і быць упэўненымі, што дзеці знаходзяцца ў руках спецыялістаў з досведам, – паведаміла сацыяльны педагог установы **Вольга Іванова**. – Але, на жаль, не ўсе дзеці з цяжкімі парушэннямі развіцця маюць магчымасць наведваць наш цэнтр і ў выніку чаго пазбаўленыя паўнацэннага развіцця. Прычына гэтага – адсутнасць спецыяльна абсталяванага транспарту для падвозу, бо дзеці-інваліды на калясках не могуць карыстацца звычайным аўтобусам. І вось з мэтай збору грашовых сродкаў на набыццё такога аўтобуса для падвозу дзяцей-інвалідаў і пры падтрымцы раённага выканаўчага камітэта праводзіцца дабрачынны марафон "Крок насустрач".

Грашовыя ахвяраванні прымаюцца на разліковы рахунак аддзела адукацыі Мядзельскага райвыканкама:

**ЦБУ №619 у г. Мядзел філіяла №601 у г. Маладзечна ААТ "ААБ "Беларусбанк", код 153001769, УНП 600097211, дабрачынны рахунак 3642061900278 (для ЦКРНіР).**

**Аддзел інфармацыі.**



СЕЗОН

## Ва Ушы купацца не рэкамендуюць

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райвыканкам сваім рашэннем замацаваў спіс месцаў для адпачынку:**

- вадаём санаторыя "Сасновы Бор"
- вадаём Дома адпачынку "Алеся"
- вадаём у Хажове
- вадаём у пасёлку Беразінскае
- вадаём у Радашкавічах

Распрацаваны план мерапрыемстваў па падрыхтоўцы пляжаў і месцаў для купання.

Якасць вады ў гэтых вадаёмах адпавядае гігіенічным нарматывам.

Вада ва Ушы ля Маладзечна і ў вадаёме ў Крыніцы не адпавядае гігіенічным патрабаванням. Там купацца не рэкамендуецца.

**Міхась МІХАЛЕВІЧ,**
**загадчык аддзялення камунальнай гігіены.**

## Фестывалю "Маладзечна" – 20 год!

**Праграма 13-га Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі, які пройдзе ў Маладзечне 7-8 чэрвеня.**

**7 ЧЭРВЕНЯ**

**12.00** – Канцэртная зала Палаца культуры. Другі тур рэспубліканскага этапа Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні.

**15.00** – Амфітэатр. Трэці тур рэспубліканскага этапа Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні. Заслужаны калектыў "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі". Дырыжор – Міхаіл Фінберг.

**15.00 – 20.00** – Святочны кірмаш. Работа гандлёвых пунктаў.

**15.00 – 20.00** – "Горад майстроў". Выстава народных рамёстваў, дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва.

**15.00 – 20.00** – Цэнтральная плошча. Канцэртная праграма "Мелодыі роднай зямлі".

**15.00 – 20.00** – Пляцоўка ля кінатэатра "Радзіма". Дзіцячая канцэртнагульнёвая праграма "Маладзечна – мой горад дзяцінства".

**21.00** – Амфітэатр. **Урачыстае адкрыццё 13-га Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна–2013".** Ушанаванне лаўрэатаў Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні.

### Прэм'ера канцэртнай праграмы "20 год разам з Маладзечнам!"

Заслужаны калектыў "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі". Лаўрэаты міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў: Тацццяна Глазунова, Галіна Грамовіч, Алеся Дзяржавец, Прыма-Вера, Яна Старцава, Наталля Тамела, Юрый Вашчук, Дзмітры Качароўскі, Руслан Мусвідас, Аляксандр Салаўёў, Мікіта Осіпаў, вакальная група: А.Дзюмін, Т,Полазава, А.Пятроў, С.Бударына. Дырыжор – Міхаіл Фінберг.

**8 ЧЭРВЕНЯ**

**11.00 – 20.00** – Святочны кірмаш. Работа гандлёвых пунктаў.

**11.00 – 20.00** – "Горад майстроў". Выстава народных рамёстваў, дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва.

**11.00 – 20.00** – Цэнтральная плошча. Канцэртная праграма "Зямля, што песнямі багата..."

**11.00 – 20.00** – Пляцоўка ля кінатэатра "Радзіма". Дзіцячая канцэртнагульнёвая праграма "Маладзечна – мой горад дзяцінства".

**12.00** – Канцэртная зала Маладзечанскага музычнага каледжа імя М.К.Агінскага. **Прэм'ера канцэрта "Лепшыя беларускія хіты 20-га стагоддзя".** Ансамблі: флейтыстаў, трубачоў, кларнетыстаў, салістаў на драўляных духавых інструментах, вакальны ансамбль, струнны квартэт, струнны аркестр. Кіраўнікі: заслужаны дзеяч мастацтваў, доктар навук, прафесар Уладзімір Скараходаў, кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар Мікалай Волкаў, заслужаны артыст Беларусі, дацэнт Генадзь Забара, дацэнт Іван Брычыкаў, Тацццяна Вайлапава, Наталля Міхайлава, Кацярына Рэйхердт. Вядучая – доктар мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава.

**12.00** – Канцэртная зала Палаца культуры. **"Маладзічок" запальвае зоркі...** Канцэрт лаўрэатаў рэспубліканскага конкурсу юных выканаўцаў эстраднай песні "Маладзічок".

**15.00** – Музычны падворак Мааладзечанскага музычнага каледжа імя М.К.Агінскага. **Паэтычныя сустрэчы з удзелам беларускіх паэтаў.**

**16.00** – Дом культуры п. Чысць. **Гала-канцэрт беларускай эстраднай песні.** Заслужаны калектыў "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі". Дырыжор – Міхаіл Фінберг.

**21.00** – Амфітэатр. **Закрыццё 13-га Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна – 2013".** Гала-канцэрт "Ты ў шчасці жыві, мая Беларусь!", прысвечаны 75-годдзю Мінскай вобласці. Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь сімфанічны аркестр Маладзечанскага музычнага каледжа імя М.К.Агінскага. Дырыжор – Рыгор Сарока.

**Феерверк**

**Аддзел інфармацыі.**

 



МЕРКАВАННЕ

# Як не падмануцца на ўсходнім кірмашы

**Кірмашы ўсходніх тавараў ладзяцца ў нашых гарадах па некалькі разоў на год. Асабліва любяць іх жанчыны: па невялікіх коштах там можна набыць і летняе адзенне, і ўпрыгожванні, і касметыку, і прыправы.**



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Знайсці якасную рэч на кірмашы ўсходніх тавараў трэба ўмець.

Але ёсць і свае сакрэты таго, як лепей сябе паводзіць на такіх кірмашах, каб не выйсці адтуль расчараванай.

Карэспандэнтка "РГ" неаднаразова працавала прадавачкай на кірмашах усходніх тавараў. Погляд на кірмаш з другога боку прылаўка стаў цікавым досведам.

### Знайсці якасны тавар – сапраўднае майстэрства

Звычайна кірмашы ўсходніх тавараў стракочуць вывескамі кшталту "стопрацэнтны шоўк", "сапраўдны індыйскі кашамір", "лепшае срэбра з Усходу". Так гэта ці не – кожны вырашае сам.

Калі прыходзіш працаваць за прылавак, гаспадар гандлёвага пункта праводзіць просты інструктаж: злева шаўковыя хусткі, справа – кашамір.

Разабрацца ў тым, ці сапраўды гэта так, можа толькі той, хто сам цяміць у тканінах. Таму пытацца ў дзяўчат-прадавачак, ці праўда, што гэта стопрацэнтны шоўк, – не мае сэнсу.

Назіраць з-за прылаўка даводзіцца рознае. Адна жанчына, выбіраючы шаўковую хустку, прапусціць яе праз сярэбраны пярсцёнак, падпаліць нітачку – спосабы у кожнага свае – і пасля з агідай кіне тканіну, абураючыся, што яе падманваюць. Праз пару хвілін гэту ж хустку "пратэстуе" другая пакупніца і набудзе яе ў вялікім захапленні, хвалячы высокую якасць.

Меркаванне аб тым, што на кірмашы гандляры з Усходу прывозяць тое, што не носяць самі і не могуць прадаць на радзіме, часам мае рацыю. Прывяду простыя прыклад.

Прадаючы кашамiравыя (па сцвярджэнні гаспадара) паланціны па 80-100 тысяч рублёў, я неаднаразова бачыла, як пакупнікі ціхенька размаўлялі з гандлярамі. "Ці ёсць у вас сапраўдны кашамір?" – пыталіся яны. Тады гандляры даставалі з-пад прылаўкаў паланціны, зусім іншыя на выгляд, і прадавалі іх па 100 даляраў за штуку. Дзяўчаты-прадавачкі пра гэты тавар нічога не ведалі.

Пазней, прачытаўшы пра тое, што кашамір – гэта поўсць высакагорных авечак, я зразумела, што наўрад ці за 100 тысяч рублёў прадаю кашаміравыя паланціны.

Калі вы гатовыя аддаць вялікія грошы за сапраўды якасны тавар – мае сэнс размаўляць з гаспадарамі самастойна.

### Не бойцеся зніжаць кошты

Гандаль ва ўсіх усходніх краінах пабудаваны на абавязковым таргаванні між гандляром і пакупніком. Часам магчыма панізіць кошты нават у некалькі разоў.

Абавязкова варта прасіць скідку ў двух сітуацыях. Па-першае, калі вам ёсць да чаго прычапіцца ў тавары. Зацяжка, нераўнамерная афарбоўка, нейкі іншы брак. Па-другое, калі вы бераце некалькі тавараў у аднаго гандляра.

Але для таго, каб знізіць кошт, неабавязкова шукаць нагоду. Можна казаць пра тое, што не хапае грошай, што вы бедны студэнт, што сёння для скідак спрыяльныя месяцавыя суткі.

**Людзі з усходу ахвотна зніжаюць кошты і ўвогуле паважаюць таго пакупніка, які просіць скідку.**

Вельмі высокая верагоднасць таго, што ў апошнія дні працы гандлёвых пунктаў кошты істотна панізяцца. Самім гандлярам не хочацца цягаць вялікія баулы з горада ў горад, таму ў апошні дзень яны звычайна ладзяць распродаж. Адваротны бок закупак у апошні дзень – магчыма, выбар у вас будзе не такі шырокі. Але гэта пераважна тычыцца адзення і ўпрыгожванняў, а не касметыкі і прыпраў.

### Самі гандляры грэбуюць сваім таварам

Калі запытацца ў гандляроў, якім сваім таварам яны карыстаюцца самі, адказ наўрад ці будзе доўгім.

У шчырых размовах гандляры прызнаваліся, што з усяго прапанаванага варта набываць толькі прыправы і касметыку па доглядзе за целам. Дзяўчаты-прадавачкі бралі алей для догляду за валасамі і заставаліся вельмі задаволеныя. Але і кошт бутэлечкі алею нашмат вышэйшы, чым у таго ж кашаміравага паланціна.

**На кірмашы высокі кошт – амаль заўсёды гарантыя якасці.**

Досвед паказвае, што ад кірмашоў не трэба чакаць высокай якасці. Гэта відаць і пры набыцці рэчы: часам трэба перабраць некалькі аднолькавых хустак, каб знайсці адну без браку. Чэк на рукі вам наўрад ці дадуць. Вярнуць тавар немагчыма. Вы набываеце рэч і не маеце ніякіх гарантый.

### Праца за прылаўкам па-ўсходняму

Дзяўчатам-прадавачкам даводзіцца працаваць у нялёгкіх умовах. Іх набіраюць пры ўмове валодання англійскай моваю на размоўным узроўні. Самі гандляры ведаюць па-руску толькі некаторыя лічбы і некалькі кампліментаў для мясцовых жанчын.

Часцей за ўсё гаспадары гандлёвых пунктаў не дазваляюць прадавачкам сядзець – гэта значыць, што ты нічога не робіш і проста адпачываеш. Аднойчы за просьбу узяць табурэтку мяне, як асабліва лянівую, накіравалі да іншага гандляра.

Кожны выхад у прыбіральню ці на каву патрабуе адмысловага дазволу. Падчас наплыву пакупнікоў нават і думаць аб прыбіральні забаронена.

Да таго ж трэба пастаянна лезці да наведнікаў з парадамі і пытаннямі. "Калі ты маўчыш – ты не працуеш", – такі прынцып Усходу. Давесці да ўсходніх людзей, што беларускіх пакупнікоў можа проста адпужваць гіперактыўнасць прадавачкі – амаль нерэальна. Таму ненармальныя для беларусаў выкрыкі прадавачак кшталту: "Падыходзьце, таннае адзенне!", "Сёння прадаём са скідкай!" і іншыя – не ініцыятыва саміх дзяўчат.

Паколькі звычайна плацяць прадавачкам не вельмі шмат, а заробак не залежыць ад колькасці прададзенага, многія дзяўчаты ідуць за прылавак далёка не за грашыма. Праца на кірмашы ўсходніх тавараў – выдатная магчымасць... красці.

Гаспадары ніколі не пералічваюць свой тавар. Некалькі разоў на дзень яны адыходзяць ад прылаўка. Многія прадавачкі карыстаюцца гэтым для таго, каб узяць рэчы для сябе, для маці і ўсіх сябровак – колькі дазволіць сумленне. Апраўданне ва ўсіх аднолькавае: калі нам не плацяць годна, то мы маем права ўзяць рэчы самі.

Некаторыя шчодрыя гаспадары самі робяць падарункі сваім прадавачкам альбо ў канцы працы прапануюць узяць тое, што спадабалася. Менавіта так у канцы працы мне дасталася прыгожая сукенка з усходнім узорам. А вось ці з сапраўднага яна шоўку – я не ўпэўненая і дагэтуль.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

| Курсы валют НБ РБ | 23.05 | 6.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 690,00 | **8 720,00** |
| Еўра | 11 230,00 | **11 400,00** |
| Злоты | 2 689,24 | **272,50** |
| Літ | 3 253,71 | **3 298,53** |
| Расійскі рубель | 278,50 | **272,50** |
| Грыўня | 1 066,78 | **1 069,28** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 22.05/6.06** | | |
| Долар ЗША | 8660/8730 | **8700/8750** |
| Еўра | 11180/11280 | **11380/11450** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 29.05 | 5.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 112700 | **110900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 48150 | **45600** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 55000 | **58000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26900 | **23500** |
| **Шашлык, паўфабрыкат**, 1 кг | 52900 | **53500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23500 | **23500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 31900 | **19800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 8500 | **8900** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8000 | **8300** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10000 | **10000** |
| **Алей** | 11500 | **14900** |
| **Маянэз**, 200 г | 4800 | **5200** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 5500 | **7200** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 32000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 7000 | **8900** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 6900 | **10000** |
| **Капуста**, 1 кг | 10900 | **8500** |
| **Морква**, 1 кг | 7500 | **12000** |
| **Буракі**, 1 кг | 5300 | **7000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **20500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 12500 | **10000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 30000 | **29800** |
| **Памідоры**, 1 кг | 18900 | **15000** |
| **Радыс, 1 кг** | 4000 | **6000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 13900 | **8000** |
| **Перац**, 1 кг | 40000 | **45000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 26500 | **28000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9000 | **7000** |
| **Грушы**, 1 кг | 25000 | **25000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Сала**, 1 кг | 50000 | **45000** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 13000 | **15000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

ПАДЗЯКА

## Дзякуй за рамонт каналізацыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Выказваю вялікую падзяку за дапамогу ў рамонце каналізацыі ў доме 135 па Вялікім Гасцінцы.**

Усе жыхары дома дзякуюць старшыні райвыканкама **Аляксандру Яхнаўцу**, кіраўніцтву ЖРЭУ №4 і людзям, якія дапамагалі ліквідаваць гэтую няспраўнасць. 20 гадоў існавала праблема на ўчастку.

Пісалі заявы ў ЖРЭУ №2, ЖРЭУ №6, у камунальную службу горада, але зрухаў не было.

Яшчэ раз дзякуй!

**В. Г. САКАЛОЎСКІ.**



 

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Захоўваў боепрыпасы, каб зрабіць самалёцік

**МАЛАДЗЕЧНА. У лістападзе 2009 года 28-гадовы жыхар Маладзечна знайшоў боепрыпасы часоў Вялікай Айчыннай вайны і прысабечыў іх.**


Фота кліпарт.рф.

Мужчына знайшоў шэсць патронаў.

Мужчына знайшоў тры з паловай грамы кідальнага выбуховага рэчыва і шэсць патронаў на месцы, дзе праходзілі баявыя дзеянні падчас вайны.

Боепрыпасы ён прынёс у дом, які знаходзіцца па вуліцы Меліярацыйнай. Мужчына захоўваў іх тры гады, пакуль у снежні 2012 года міліцыянеры не знайшлі патроны і выбуховае рэчыва падчас дагляду.

На судзе мужчына прызнаў сябе вінаватым. Ён патлумачыў, што захоўваў боепрыпасы таму, што хацеў зрабіць з іх самалёцік.

Абвінавачаны працуе, раней не судзімы, жанаты. Яго жонка нідзе не працуе. Пара выхоўвае пяцігадовую дачку.

Суд прызнаў мужчыну вінаватым у захоўванні боепрыпасаў і прызначыў пакаранне: на працягу года ён мусіць штомесяц выплачваць дзяржаве 10% заробку, аднак не менш за адну базавую велічыню. Такім чынам, за год асуджаны выплаціць не менш за 1,2 мільёна рублёў.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

КРЫМІНАЛ

## Другі раз абакралі царкву: скралі пяць абразоў

**ВАЛОЖЫН. Служка Старажытнаправаслаўнай паморскай (стараверскай) царквы ў вёсцы Масцішча апошні раз бачыла там абразы 26 мая ў 12.30. Раніцай 29 мая іх ужо не было.**

Нягледзячы на тое, што дзверы ў царкве былі падвойныя, зладзеям удалося ўзламаць абодва замкі, увайсці ўнутр і скрасці пяць абразоў: "Мікалай у 12 цудах", "Гасподзь Усеўладны", "Багародзіца покрыва", "Багародзіца з дзіцем", "Уваход Гасподні ў Ерусалім".

Тры абразы даволі вялікія, памерам не менш за метр. Яшчэ два – меншыя.

У царкве цяпер няма святара. Апошні ўжо памёр, а прыход невялікі, таму новы не прыязджае. Мясцовыя жыхары самі даглядаюць за царквой. Пераважна 78-гадовая жанчына, якая ўмее чытаць стараверскія кніжкі, і збірае людзей у царкве. Яна і звярнулася ў міліцыю.

Жыве жанчына непадалёк, у паўкіламетры ад царквы, але ў гэтыя дні туды не хадзіла. Сама царква знаходзіцца на водшыбе ў хмызняку, таму і іншыя мясцовыя жыхары паблізу праходзяць рэдка.

Валожынскі райаддзел Следчага камітэта просіць усіх, хто што-небудзь ведае пра здарэнне, звяртацца па тэлефонах: **102, 8-029-688-27-20** (старшы следчы **Уладзімір Уладзіміравіч Ланько**), **8-029-668-90-83** (начальнік крымінальнага вышуку **Артур Гургілоевіч Махмудаў**)

Пра здарэнне расказаў старшы следчы Валожынскага райаддзела Следчага камітэта Уладзімір Ланько.

**Настасся РОЎДА.**

## Жыхара Маладзечна забілі на Вілейшчыне

**ВІЛЕЙКА. Забойства адбылося ў ноч на 30 мая ў вёсцы Рэдзькавічы.**

Паведамленне пра гэта паступіла каля гадзіны ночы. 23-гадовы жыхар Вілейскага раёна абвінавачваецца ў тым, што ўдарыў нажом у сэрца 30-гадовага мужчыну. Жыхар Маладзечна памёр да прыбыцця "хуткай дапамогі".

Ён працаваў у брыгадзе, якая займалася нарыхтоўкай лесу і наймала дом у вёсцы Рэдзькавічы. Да мужчын завіталі чатыры чалавекі, якія шукалі сваю знаёмую. Усчалася сварка, падчас якой і быў нанесены смяротны ўдар, паведаміў начальнік Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь **Мікалай Раманчук**.

Жыхар Вілейшчыны быў п'яны. Ён ужо судзімы за крадзеж і хуліганства. Цяпер мужчына арыштаваны, знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання. У адносінах да яго ўзбуджаная крымінальная справа за наўмыснае забойства. Яно караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад шасці да пятнаццаці гадоў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПАРУШЭННІ

## Прадавалі алкаголь у дзень апошніх званкоў

**МЯДЗЕЛ. У Мядзельскім раёне 30 мая тры крамы парушылі распараджэнне райвыканкама, якое забараняла прадаваць алкаголь у дзень апошніх званкоў.**

У 13 гадзін паўлітра піва "Балтыка" прадалі ў краме агракамбіната "Дзяржынскі" па вуліцы Юбілейнай у Мядзеле. Знялі з продажу на час забароны і 200 літраў астатняй алкагольнай прадукцыі.

Пазней зноў жа паўлітра піва "Балтыка" прадалі і ў гандлёвым павільёне "Смак" па вуліцы Камуністычнай. Тут знялі з продажу амаль 380 літраў спіртных напояў.

Пасля сямі гадзін вечара у краме "Прадукты" ў вёсцы Нарач (Кабыльнік) прадалі бутэльку віна. Тут знялі з продажу на час забароны больш за 150 літраў алкаголю, паведаміў начальнік аддзялення аховы правапарадку і прафілактыкі **Дзмітры Ярашэвіч**.

Цяпер на прадаўцоў названых крам склалі адміністрацыйныя пратаколы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НА ЧЫГУНЦЫ

## Рабочага забіла рэйкай падчас працы

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра гэта паведаміла старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце Таццяна Субач. Справа накіраваная ў Следчы камітэт.**

Абставіны патлумачыў старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

Раніцай у чацвер, 30 мая, работнікі дыстанцыі пуці грузілі кранам рэйкі, каб адправіць іх на ўчастку рамонту.

На аднаго з рабочых рэйка звалілася і прыціснула яго. Ад ўдару мужчыну моцна пашкодзіла грудную клетку і ўнутраныя органы.

Ён страціў прытомнасць. У бальніцы каля дзвюх гадзін правёў у коме, а пасля памёр.

Мяркуецца, у гэты час закініла абсталяванне.

Цяпер праводзяцца неабходныя экспертызы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

СЛУЖБА 101

## Жанчына ледзь не страціла пяцярых дзяцей

**СМАРГОНЬ. Здарэнне адбылося 3 чэрвеня каля 5.00 у вёсцы Сукневічы.**

Калі туды прыехалі выратавальнікі, дом ужо палаў. Але ўсе яго жыхары засталіся жывымі. Іх выратаваў пажарны апавяшчальнік.

У тую ноч 46-гадовай гаспадыні не было дома. Яна паехала ў Смаргонь. Яе ж пяцёра дзяцей, сярод якіх двое непаўналетніх, мірна спалі, як раптам іх разбудзіў пажарны апавяшчальнік.

Яны самі змаглі выбрацца з дома і патэлефанаваць у МНС.

Папярэдняя прычына пажару – кароткае замыканне электраправодкі.

Цяпер сям'я будзе жыць у іншым месцы, якое выдзеліць прадпрыемства "Смаргоньлён".

**Паводле Мінскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях.**


Фота 112.by.

Дзякуючы апавяшчальніку ўсе засталіся жывыя.

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## За забруджванне дарог каля звалак пакараюць

**МАЛАДЗЕЧНА.** Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечанскага райаддзела міліцыі праводзіць мерапрыемствы па недапушчэнні забруджвання аўтамабільных дарог і палос адводу побач з месцамі бытавых адходаў.

Да тых, хто дапусціць забруджванне, прыменяць меры адміністрацыйнага ўздзеяння.

**Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Шукаюць сведкаў аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта шукае сведкаў і відавочцаў аварыі.**

Яна адбылася летась 23 чэрвеня каля 12.00 на першым кіламетры дарогі Пралескі–Туркаўшчына, паблізу вёскі Пралескі, што на Маладзечаншчыне.

Кіроўца "Аўдзі-80" (кузаў седан бардовага колеру) збіў жанчыну, якая ішла па ходу руху аўтамабіля, яна атрымала цяжкія траўмы.

Просім усіх відавочцаў пазваніць па тэлефонах **8-029-7082995** альбо **8-0176-771089** з 9.00 да 18.00 у будныя дні следчаму **Віктару Вікенцьевічу Зяневічу**.

**Паводле інфармацыі Следчага камітэта.**

# У доме састарэлых пахне кветкамі

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

### Гаспадар з адной рукой

45-гадовага **Пецю Ланеўскага** тут называюць залатым чалавекам. А ён пра аддзяленне кажа: "Гэта мая хата".

Ён інвалід-калясачнік з дзяцінства. У яго працуе толькі адна рука. Мужчына сам змайстраваў сабе наколенікі, якія дазваляюць яму перамяшчацца на каленях.

Пеця не можа без працы. Ён сам пафарбаваў агароджу, падмятае двор і дапамагае работнікам аддзялення ва ўсім. Час ад часу ездзіць да рэчкі Ашмянкі ці ў клуб на канцэрт. Ён назіраў, як іншыя гуляюць у шахматы і шашкі, і навучыўся гуляць сам. Але чытаць не ўмее: інваліду было складана вучыцца.

– Трэба змірыцца і жыць, як атрымліваецца, – гэтаму навучыла Пецю жыццё.

### "Сем год прайшло, а я кожны дзень плачу"

У 81-гадовай **Ліды Мароз** дачка жыве ў Італіі, а сын у інтэрнаце ў Гродна. Яна працавала на льнокамбінаце ў Оршы, выйшла замуж, восем год працавала на цаліне. Пасля пераехала ў Ашмяны, да сваякоў мужа, працавала на мясакамбінаце ў забойным цэху.

– А цяпер муж памёр. Яшчэ адзін сынок памёр, – праз плач кажа жанчына. – 47 гадоў было. Пяць аперацый у Бараўлянах. Сем год, як яго няма, а я плачу кожны дзень. Такі прыгожы. Каб не бачыла хоць, як ён мучыўся. Усё пачалося ад зуба. Кажу, каб ішоў да зубнога. Ён усё адкладваў, а аказалася, што каля зуба мудрасці ракавая пухліна. На хаду худзеў...

Пра ўмовы жанчына распавядае сама, не дачакаўшыся пытання:

– Тут усе харошыя, па два разы на дзень падлогу мыюць. Здаецца, што там ужо мыць? Пад шпалеры шторы падабралі. А які Віталь Іванавіч, такі спакойны, паважлівы, ласкавы! І Ядвіга Баляслаўна збегае, куды папросіш, вельмі добрая жанчына. У мяне кватэра ў Ашмянах на замку. Я туды не хачу. А што я там буду рабіць? Галавой аб сцены біцца?

### Як працуе аддзяленне

Пра працу аддзялення нам распавялі загадчык аддзялення **Віталь Мачэль** і санітарны работнік **Ядвіга Садоўская**.

Раней у будынку быў школьны інтэрнат. У 2008 годзе адкрылі аддзяленне кругласутачнага знаходжання састарэлых людзей і інвалідаў.

У аддзяленні 27 пастаяльцаў, 10 з іх мужчын. Пяць чалавек, якім за 80 год. Ёсць некалькі чалавек з саміх Ашмянаў, але пераважна сюды пераязджаюць людзі з вёскі, якім ужо цяжка даглядаць гаспадарку.

Іх абслугоўвае 16 чалавек: загадчык, сацыяльны работнік, медсястра, рабочыя па будынку і мыцці, раздатчыцы, повары, сем санітарак.

Шточацвер прыходзіць псіхолаг і праводзіць індывідуальныя заняткі. Гэта надзвычай важна для пажылых: яны часта гавораць тое, што ўжо гаварылі не раз. Любяць успамінаць, як ім добра жылося, якімі яны былі гаспадарамі.

– Тут людзям прасцей з бытавымі ўмовамі, – упэўненая сацыяльны работнік. – Нават загаворыш з кімсьці – і ўжо лягчэй. А з кім яны на хутары пагавораць?

Раніцай тут прачынаюцца а 6-7 гадзіне. Снедаюць. Потым праходзяць патрэбныя працэдуры. У дзень мужчыны і жанчыны займаюцца тым, чым хочацца: гуляюць у шахматы і шашкі, вяжуць, чытаюць, дапамагаюць на ўчастку і ў агародзе.

Кожнае свята адзначаюць некалькі разоў: прыходзяць з канцэртамі і выхаванцы садка, і школы, і музычнай школы, заўсёды дапамагае клуб.

У некаторых ёсць мабільныя тэлефоны, а вось інтэрнэта пастаяльцы не маюць, але і патрэбы ў ім не адчуваюць.

У аддзяленне могуць трапіць пенсіянеры, якія жывуць адны і маюць неабходнасць у доглядзе. У Жупранах даглядаюць таксама і інвалідаў.

Ад чэрвеня пастаяльцы плацяць за пражыванне 85% пенсіі (раней плацілі 80%). Калі ў чалавека ёсць дзеці, то яны мусяць плаціць поўную суму – кошт пераразлічваецца штомесяц, цяпер складае прыкладна 2,4 мільёна рублёў.

Пра тых, каму можа спатрэбіцца догляд у аддзяленні, збірае звесткі тэрытарыяльны цэнтр сацабслугоўвання, яны ж збіраюць неабходныя дакументы. Калі чалавек згодны, яго накіроўваюць у дом састарэлых.

Дагавор складаюць на шэсць месяцаў, а потым яго прадаўжаюць. Калі чалавек хоча, ён можа перазімаваць у аддзяленні, а на лета перабрацца дадому. У любы час можна напісаць заяву і да пяці дзён пабыць у сваякоў.

– Чалавек да добрага прызвычайваецца хутка, – адзначае санітарны работнік Ядвіга Садоўская. – Тут памыюць, накормяць, цёпла. А паспрабуй пацягай дровы зімой!

Пытаемся, ці здараліся ў аддзяленні рамантычныя гісторыі.

– Такога, каб улюбляліся ці жаніліся, то не было. Такі ўзрост, што ўжо налюбіліся. Але ёсць такія, што сябруюць між сабой, знаходзяць агульнае, пра што можна пагаварыць.

**Больш фота і відэа на сайце**




Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

---

**ТРАНСПАРТ**

## Перакрыюць дарогі падчас фестывалю

**МАЛАДЗЕЧНА. Падчас 13-га Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі, які пройдзе ў Маладзечне 7-8 чэрвеня, ДАІ перакрые некаторыя дарогі.**

1. Па вул. Віленскай ад рэстарана "Еўропа" да Вялікага Гасцінца.
2. Вул. Л. Талстога ад Палаца культуры да вул. Прытыцкага.

Калі будзе вялікі наплыў людзей, перакрыюць таксама:
1. Уезд у парк каля кафэ "Лагуна" і каля крамы "Алекор".
2. Вул. Б. Хмяльніцкага: ад пешаходнага перахода каля кафэ "Лагуна".

**Аддзел інфармацыі.**

## Аўтобусы 6 і 5-а мяняюць расклад

**МАЛАДЗЕЧНА. Расклад мяняецца толькі на летні час.**

Ад першага чэрвеня па 31 жніўня адменены аўтобус №5А і некаторыя рэйсы шасцёркі.

Шасцёрка не будзе ездзіць з Парашкоў у 6.42, 8.14, 14.08, 15.40, 17.14, 18.44.

А таксама са Здземелева ў 7.28, 9.00, 14.54, 16.33, 17.58, 19.30.

Пра гэта паведамілі ў аддзеле пасажырскіх перавозак Маладзечанскага аўтапарка.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**




## З-за фестывалю маладзечанскія аўтобусы зменяць маршруты

**МАЛАДЗЕЧНА. З-за правядзення фестывалю песні і паэзіі 7 і 8 чэрвеня змяняецца рух аўтобусаў.**

– Будзе перакрытая вуліца Віленская ад перасячэння з вуліцай Валынца да перасячэння з Вялікім Гасцінцам, – кажа дырэктар маладзечанскага аўтапарка Яўстафій Каравай.

Аўтобусы **№№1, 3, 6А, 7А, 9, 15, 20, 22** будуць рухацца часткова па іншых маршрутах.

**№1.** Прыпынкі "Вілейская" – "Плошча Старое Места" – "Музей" – "Чыгунка" – "вул. Буйніцкага" – "Крама "Алекор" (направа) – "Вялікі Гасцінец" – і далей па маршруце.

**№3.** "Вілейская" – "Плошча Старое Места" – "Мясакамбінат" – "Аптэка" (вул. Міру) – "Паліклініка" – "Вуліца Касманаўтаў" – "Атэлье "Бярозка" – і далей па маршруце.

**№6А.** "ЗПМ" – "Плошча Старое Места" – "Мясакамбінат" – "Аптэка" (вул. Міру) – "Праектныя майстэрні" – "Палац культуры" – "Чыгунка" – "Музей" – "Вуліца Віленская" (налева) – "Дзіцячая бальніца" – "Вуліца Касманаўтаў" – "Паліклініка" (налева) – "Паўднёвы" – і далей па маршруце.

**№7А.** "Вуліца Лясная" – "Пуцеправод" – "Чыгунка" – "крама "Алекор" – "Вуліца Бухаўшчына" – "Вуліца Валынца" (прама) – "Дзіцячая бальніца" – "Вуліца Касманаўтаў" – "Паліклініка" (налева) – "Паўднёвы" – "Рэчавы рынак" – і далей па маршруце.

**№9.** "Аўтавакзал" – "Музей" – "Вуліца Віленская" (налева) – "Дзіцячая бальніца" – "Вуліца Касманаўтаў" (налева) – "Стаматалогія" – далей па маршруце – "Паліклініка" – "Вуліца Касманаўтаў" – "Атэлье "Бярозка" – і далей па маршруце.

**№15.** "Крынічная" – далей па маршруце – "Пуцеправод" – "Вуліца Лясная" – "Пуцеправод" – "Вуліца Віленская" (налева) – "Дзіцячая бальніца" – "Паліклініка" (налева) – "Паўднёвы" – "Рэчавы рынак" – і далей па маршруце.

**№20.** "ЗПМ" – "Плошча Старое Места" – "Вуліца Віленская" (налева) – "Дзіцячая бальніца" – "Вуліца Касманаўтаў" (направа) – "Вялікі Гасцінец" (налева) – "Праектныя майстэрні" – і далей па маршруце.

**№22.** "Сасновы Бор" – "Вілейская" – "Плошча Старое Места" – "Віленская" (налева) – "Дзіцячая бальніца" – "Вуліца Касманаўтаў" (направа) – "Вялікі Гасцінец" (налева) – "Праектныя майстэрні" – і далей па маршруце.

**Аддзел інфармацыі.**


алми
СЕТЬ МАГАЗИНОВ
ГАСТРОНОМ УЛ. Ф. СКОРИНЫ, 28
УНИВЕРСАМ УЛ. ВЕЛИКИЙ ГОСТИНЕЦ, 136
7300 СКИДКА 15% Продукт йогуртный Добрай раницы жир.2% 350г РБ В ассортименте
61900 СКИДКА 15% Сыр мягкий Моцарелла Голд жир.45% РБ
38900 СКИДКА 15% Колбаса вареная мясная Останкинская Элит в/с 1кг РБ
79900 СКИДКА 25% Колбаса салями Застольная с/в б/с 1кг РБ
только в универсаме 61900 СКИДКА 20% Рулет к/в Селянский Особый 1кг РБ
21900 СКИДКА 30% Аргентина с/м б/г 1кг Исландия
только в универсаме 65900 СКИДКА 20% Щука х/к потрошеная 1кг РБ
только в универсаме 24900 СКИДКА 30% Кальмар тушка 1кг РФ
только в универсаме 10900 СКИДКА 25% Кальмар натуральный шинкованный Синее море 250г РФ
только в универсаме 6700 СКИДКА 20% Горошек зеленый Овощное меню 410г/Кукуруза Овощное меню 420г Украина
только в универсаме 7300 СКИДКА 20% Фасоль в томатном соусе Овощное меню 425мл Украина
только в универсаме 13500 СКИДКА 20% Масло подсолнечное Кристаллина 1л РФ
2750 СКИДКА 20% Горчица Щедро 120г Украина Острая Домашняя/Украинская
4950 СКИДКА 20% Кетчуп Щедро 300г Украина Шашлычный/Нежный/Томатный
только в универсаме 6500 СКИДКА 30% Крупа гречневая Эколайн Грин 800г РФ
только в универсаме 17500 СКИДКА 30% Подушечки с начинкой Старт 500г Украина Молоко/Шоколад
только в универсаме 13500 СКИДКА 15% Пюре мясное Гербер 80г Индейка/Цыпленок
только в универсаме 5200 СКИДКА 20% Сок детский Агу-Агу 170мл РФ В ассортименте
3300 СКИДКА 25% Вода детская питьевая Фруто Няня 0.33л РФ
11500 СКИДКА 20% Вода минеральная Боржоми 1л Грузия
7300 СКИДКА 20% Нектар Добрый 1л РБ Апельсин/Мультифрукт/Ананас
9500 СКИДКА 25% Чай Сан Лайт Байховый Цейлонский 100г Шри-Ланка
25900 СКИДКА 20% Кофе молотый Гут Лебен 250г Германия
2900 СКИДКА 25% Шоколад Спартак с помадной начинкой 48г РБ Шоколад/Сливки Производитель: СП ОАО "Спартак"
32900 СКИДКА 25% Набор конфет Раффаэлло 150г РФ Поставщик: ОДО "НП-Сервис"
9900 СКИДКА 20% Торт вафельный глазированный Старый замок 250г РФ Ореховый/Черничный
только в универсаме 9950 СКИДКА 25% Десерт молочный Ломтишка 160г РФ
только в универсаме 8900 СКИДКА 20% Конфеты Шоколапки 200г Украина
5450 СКИДКА 20% Карамель леденец Коммунарка 200г РБ Барбарис/Дюшес/Улетный
6500 СКИДКА 20% Крекер Тук с сыром 100г Украина
1500 СКИДКА 25% алми СДЕЛАНО ДЛЯ ВАС! Арахис АЛМИ жареный с солью 30г РБ
только в универсаме 9500 СКИДКА 20% Жидкое мыло Ультра Компакт 500мл Турция В ассортименте
38900 СКИДКА 20% Стиральный порошок Сорти Автомат 3кг РФ Активный кислород/Колор
только в универсаме 14900 СКИДКА 25% Кондиционер для белья Е 1л Свежий/Чувствительный
6500 СКИДКА 25% Средство моющее Капля Сорти 500мл РФ Витамин Е/Алоэ Вера
7900 СКИДКА 20% Прокладки Либресс Классик Ультра 9-10шт Словакия В ассортименте
ООО «Торгпин», Лиц.50000/26251 выд. Мингорисполкомом от 23.05.2012 по 20.06.2022, УНП 190679197.
товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136
товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136
ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 5 ПО 18 ИЮНЯ 2013 ГОДА
Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются. Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале. При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.

■ ГІСТОРЫЯ

# Авіятары з-пад Альковічаў

## Браты Адамовічы, якія пакарылі Атлантыку

*Пачатак тэмы у №14.*

**Нашы землякі з Вілейшчыны былі першаадкрывальнікамі паветранага шляху на аматарскім самалёце з Амерыкі у Еўропу праз паўночную Атлантыку**



Фота wikimedia.org.

**Сустрэча братоў Адамовічаў, ураджэнцаў Вілейшчыны, на аэрадроме ў Макатове (Варшава) пасля іх гераічнага трансакантынентальнага пералёту з Амерыкі ў 1934 годзе.**

Чэрвеньскім ранкам 1934 года на аэрадроме пад Нью-Ёркам сабралася радня і сябры Баляслава і Восіпа Адамовічаў, эмігрантаў з-пад Альковічаў, каб з добрымі пажаданнямі адправіць у нялегкі і складаны, няведамы шлях на Еўропу гераічных хлопцаў.

Былі тут і дыпламаты, і карэспандэнты. У шэсць гадзін трыццаць пяць хвілін стартавалі.

На пачатку чэрвеня 2012 года даўні сябра музея "Вілейшчына літаратурная" Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымаца, колішні жыхар Ілы, вучань школы, а зараз прафесар у Польшчы **Ілірык Вараўка** даслаў мне кнігу Софіі Рэклеўскай-Браўн і Казіміра Браўна "Браты Адамовічы, эмігранты-лётчыкі, першыя польскія здабыўцы Паўночнай Атлантыкі".

Да рызыкоўнага пералёту ў 1934 годзе прыкладаліся непасрэдна два браты-эмігранты ў Амерыку – Баляслаў і Восіп, але матэрыяльны ўдзел па ўсім бачна, прымаў таксама брат Браніслаў.

Акрамя таго, да гэтых братоў у эміграцыю выехала сястра і іншая радня. Па ўспамінах Баляслава, у Яноўшчыне іх, кроўных, было васьмёра.

Два гады назад спадар Ілірык перадаў нашаму музею матэрыял Казіміра Мазурыка "Пералёт над Атлантыкай братоў Адамовічаў". Аўтар названага артыкула сабраў змястоўны матэрыял, да якога прыклаў фотаздымкі, карты. Сцісла перадаю тое, што прачытала на польскай мове ў гэтых аўтараў, бо не ўсе мае землякі чыталі гэтыя аповеды.

Бацькі іх, Юльян Адамовіч і Ганна Гейна, рана пакінулі свет: у 1906 годзе – маці, а праз некалькі гадоў пайшоў за ёй і бацька. У сваёй кнізе Браўны паказваюць братоў Адамовічаў з Альковічаў Крайскага павета. Богу маліцца хадзілі ў Альковіцкі касцёл. Сям'я, відаць, была працавітая, жылі даволі заможна: мелі дом, у якім жыло каля дзесяці чалавек (у тым ліку і дзед Лукаш), гаспадарку: стайню, абору, стадолу, хлявы, куратнік, 25 кароў, 15 свіней, каля 30 авечак, 4 кані, каля 50 гектараў зямлі.

У эміграцыю скіроўваліся самыя смелыя, тыя, хто не баяўся перашкод, нават крыху рызыкоўныя. Практыка выезду ў Амерыку была ў нашай мясцовасці ад паловы 19 стагоддзя. На пачатку 20 стагоддзя ў Брукліне аселі цэлымі кланамі радня Адамовічаў і Гейнаў, іх суседзяў і знаёмых.

Браніслаў (Бронька, Бронюсь) 1885 года нараджэння, Восіп (Ёэф, Юзаф, Осіп, Восіп) – 1893, Баляслаў (Болек) – 1898. У 1905 годзе браты пачалі пакідаць любы край у пошуках новага і незвычайнага. Восіп Адамовіч (даследчыкі думаюць, што гэта быў Браніслаў) прыбыў у Нью-Ёрк і спыніўся ў знаёмых. Там жа была і яго жонка, Ганна Скшэтуска (Anna Skrzetuska), там яны нажылі двое дзяцей.

У 1914 годзе да Браніслава прыехаў чатырнаццацігадовы Ёзэф, а крыху пазней яны забралі да сябе і малодшага, адзінаццацігадовага Баляслава. Усе браты скончылі агульнаадукацыйную школу, вучыліся ў Крайску, дарога была няблізкая – кіламетраў пяць, зімой іншы раз страшна было ісці праз лес, які з абодвух бакоў падступаў да самай дарогі, маглі пераняць ваўкі.

Браніслаў скончыў двухгадовую афіцэрскую школу ў статусе падпрапаршчыка, прызваны быў на вайсковую службу, але нейкім чынам выйшаў у адстаўку, хоць ішла вайна з Японіяй.

Спачатку ўсе браты ўладкаваліся працаваць на цукровы завод, а ў 1918 годзе пачалі працаваць на сябе – адчынілі прадпрыемства па выпуску і продажы газіраванай вады.

З таго часу, пераадольваючы розныя цяжкасці і перашкоды, дружны клан Адамовічаў ашчаджаў кожны долар, не адкідалі і пабочныя заробкі (падпольна гнаў гарэлку), бо братоў захапіла мара – падняцца на самалёце ў неба.

Спакваля мара прыбліжалася: спачатку набылі стары матацыкл, пазней змянілі яго на аўтамабіль, пасля аўтамабілі сталі купляцца ўсё больш шыкоўныя і ўрэшце прыйшло жаданне набыць уласны самалёт. Упершыню паспыталі шчасце падняцца ў неба ў 1928 годзе на вучэбным самалёце, які ляцеў 15 міль у гадзіну, каштаваў такі палёт 10 долараў на аднаго пасажыра.

Прыспешвала неўтаймаванае жаданне – наведаць сваю радзіму, з вышыні ўбачыць родныя палеткі і лугі, лясы і пералескі, па якіх у сэрцы была непазбыўная туга.

Самалёт старгавалі за 3400 долараў. У ім былі месцы і для вучняў, і для інструктара. Баляслаў і Восіп аказаліся стараннымі, працавітымі вучнямі, да пілатажнай навукі аднесліся вельмі сур'ёзна, не ўсё было гладка, прыходзілася траціцца на рамонт самалёта, не раз прыкласці свае рукі, вывучыць не адзін падручнік па пілатажы і навігацыі, здаць экзамены на правы кіраваць самалётам.

Браты разумелі, каб пераляцець Атлантыку, патрэбны больш надзейны самалёт. Свой самалёт прадалі за 4 тысячы долараў і з дапамогай радні купілі "Беланку" (Bellanca J300) за 22 тысячы. Гэта была марка самалёта, выпрабаваная на далёкія адлегласці, складаная і прыгожая машына. Браты лcraft на "Беланцы" з лета 1932 года. Летам 1933 года адбылася першая спроба пералёту на далёкія адлегласці.

**Працяг будзе.**
**Роза ШЭРАЯ,**
**кіраўнік музея "Вілейшчына літаратурная" Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымаца.**

**Чытайце больш на нашым сайце www.rh.by.**

# Памяці Алены Саламевіч

**У аўторак, 28 мая, пасля цяжкай хваробы перастала біцца сэрца Алены Саламевіч, шчырага чалавека, аўтаркі "Рэгіянальнай газеты".**



Нарадзілася Алена Уладзіміраўна Саламевіч (Станкевіч) 4 лістапада 1961 года ў вёсцы Гародзькі Валожынскага раёна.

Скончыла Гародзькаўскую СШ, пасля філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, аспірантуру, працавала старшым выкладчыкам на падрыхтоўчым аддзяленні Беларускага педагагічнага ўніверсітэта. Аўтар 50 публікацый па праблемах сінтаксісу, метадыцы выкладання беларускай мовы і літаратуры ў сістэме даўніверсітэцкай падрыхтоўкі.

Цікавілася гісторыяй роднага краю, развіццём адукацыі на Валожыншчыне, шмат працавала ў архівах, дзякуючы чаму змагла аднавіць гісторыю сваёй роднай вёскі. "Вядомыя і невядомыя Гародзькі" называецца матэрыял, у ім Алена Саламевіч распавяла пра ўчарашні і сённяшні дзень сваёй малой радзімы.

Друкаваліся ў "Рэгіянальнай газеце" і такія яе матэрыялы, як "Сябры Купаліхі", "Як сплятаўся клубочак" – вялікі матэрыял пра лёс настаўнікаў заходнебеларускай вёскі Гародзькі ў 1920-1930 гадах.

Чалавек актыўны і няўрымслівы, яна ніколі не сядзела на месцы. Шмат чытала, распрацавала некалькі дапаможнікаў для студэнтаў, склала радавод па мацярынскай і бацькоўскай лініях.

У яе было шмат сяброў, знаёмых, якіх яна атуляла клопатам і ўвагай. Любіла сваіх родных і блізкіх, не магла прайсці міма чалавечага гора.

Пахавалі Алену Саламевіч у Мінску на Усходніх могілках.

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Алены Уладзіміраўны.**

У памяць аб Алене Саламевіч на нашым сайце неўзабаве мы размесцім яе матэрыялы, якія друкаваліся ў "РГ", але не трапілі на старонкі Інтэрнэта.

**Рэдакцыя "РГ".**

■ КАЛЯНДАР

**9 чэрвеня.** 210 гадоў з дня нараджэння Адольфа Янушкевіча (1803–1857), падарожніка, пісьменніка. Скончыў філалагічны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Падарожнічаў па Італіі, Германіі, Францыі. У дзённікавых запісах і лістах раскрыўся як таленавіты апавядальнік і даследчык.

***

**145 гадоў** з дня нараджэння Уладзіслава Вярыгі (1868–1916), філосафа, этнографа, збіральніка беларускага фальклору.

***



**100 гадоў** з дня нараджэння Тамары Міянсаравай (1913–1990), піяністкі, заслужанай артысткі Беларусі. Нарадзілася ў Маскве. Скончыла Ерэванскую кансерваторыю. У 1944–1948 гадах – канцэртмайстар Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, у 1948–1985 гадах – Дзяржаўнага камітэта СМ па тэлебачанні і радыёвяшчанні.

***

**10 чэрвеня.** 90 гадоў з часу заснавання (1923) механічнай абутковай фабрыкі імя Лекерта (з 1937 года – Віцебская абутковая фабрыка "Кастрычнік", з 1938 года – Віцебская абутковая фабрыка "Чырвоны Кастрычнік", з 1989 года – у складзе прадпрыемства "Белвест", з 1994 года – адкрытае акцыянернае таварыства "Чырвоны Кастрычнік").

***

**310 гадоў** з дня нараджэння Францішка Папроцкага (1723–1805?), выдаўца, перакладчыка, гісторыка. Родам з Беларусі. Вучыўся ў Полацкай, Слуцкай, Нясвіжскай і Гродзенскай езуіцкіх калегіях. Выкладаў у Варшаве, Вільні, доктар філасофіі. Выдаваў і рэдагаваў першы на тэрыторыі Беларусі і Літвы інфармацыйны штотыднёвік "Літоўскі кур'ер".

***



**13 чэрвеня.** 110 гадоў з дня нараджэння Эдуарда Шапко (1903–1977), беларускага акцёра, заслужанага артыста Беларусі. Нарадзіўся ў г. Ліепая (Латвія). У 1922–1959 гадах працаваў у Беларускім тэатры імя Янкі Купалы.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Гальшанскі замак “падрос” на тры метры за два месяцы

## Але над ім па-ранейшаму не ідуць дажджы, а ўначы з’яўляюцца містычныя істоты

**АШМЯНЫ. Работы ў адной з самых вядомых на Ашмяншчыне гістарычных мясцін пачаліся вясной. Карэспандэнты “Рэгіянальнай газеты” выехалі на месца, каб паглядзець, як за гэты час змяніліся руіны замка.**

На месцы знаёмімся з рабочымі, якія цяпер працуюць на руінах. Яны ахвотна расказваюць пра сваю працу і праводзяць невялікую экскурсію па тэрыторыя колішняга замка.

– Мы працуем тут ад пачатку красавіка, – кажа студэнт-будаўнік **Арцём Кумпіцкі**, які ў Гальшанах адпрацоўвае практыку. – Усяго нас сямёра. Пяць чалавек – археолагі, я і яшчэ адзін хлопец – практыканты.

### “Усё самае каштоўнае знеслі да нас”

Цяпер праца рабочых заключаецца ў тым, каб раскапаць сцены замка і дабрацца да падземных хадоў, а таксама ачысціць тэрыторыю замка ад цэглы.

Арцём паказвае на лінію на сцяне, уздоўж якой пару тыдняў таму ляжала зямля і расла трава. За два месяцы сцены Гальшанскага замка адкапалі амаль на тры метры.

– Калі капаем, то часта знаходзім кавалкі адбітай пліткі, – кажа студэнт. – Яе збіраем у вялікія скрыні. За час працы ўжо шмат назбіралі.

Паглядзець на плітку ў нас не атрымліваецца: якраз пару дзён таму яе вывезлі з Гальшанаў. Застаўся толькі адзін невялікі кавалак, які знайшлі зусім нядаўна.

– Мы знаходзілі белую, зялёную і карычневую плітку, – кажа археолаг **Марк Мешчановіч**. – Яе адвезлі на далейшае вывучэнне ў Мінскі археалагічны музей.

Трапляецца рабочым і плітка, што аздабляла падлогу. Паказаць яе цяпер няма магчымасці, таму Арцём малюе ўзор пліткі на зямлі.

– Плітка невялікая, але вельмі прыгожая, – гаворыць ён. – У цэнтры знаходзіцца шасціканцавая зорка, вельмі падобная да зоркі Давіда.

Акрамя пліткі ў зямлі нічога не трапляецца, запэўніваюць рабочыя. “Усё самае каштоўнае, што магло тут быць, вывезлі да нас”, – жартуюць яны.

– Чалавечыя косткі мы таксама не адкопвалі, – кажа Марк. – Чуў, што неяк знайшлі чэрап. Але чый ён быў, чалавека ці жывёлы, так і не вызначылі: ён быў такі стары, што ледзь дакранешся – у пыл рассыпаецца.

На тэрыторыі замка ёсць апрацаваны камень з паглыбленнем у цэнтры. Даследчыкі мяркуюць, што яго выкарыстоўвалі на млыне.

– А вось тут некалі месцілася стайня, – паказвае на сцены Марк. – Тут знаходзілі вілы і іншыя сельскагаспадарчыя прылады. А недалёка – вінтавая лесвіца.

### Па руінах блукае прывід Белай Дамы і Чорнага Манаха

Легенды – абавязковы штрых да любога замка. Не выключэнне тут і Гальшанскі.

– **Што ты ведаеш пра замак?** – пытаемся ў мясцовай школьніцы, якая называе сябе Варай.

– Тут жывуць Белая і Чорная Дамы, – гаворыць дзяўчынка.

Калі мясцовыя школьнікі выбіраюцца класам пагуляць, то абавязкова ідуць да замка і фатаграфуюцца каля яго. Падыходзячы да адной з вежаў, дзеці ціхенька стукаюць тры разы па сцяне. Яны распавядаюць, што Белая Дама і Чорная ваююць між сабой: Белая абараняе людзей, а Чорная нібы забівае.

Дзеці кажуць, што тут жылі князі, праўда, назваць некаторыя імёны не атрымліваецца. Аднак месца з-за гэтага не губляе сваёй містычнай прыцягальнасці, і дзеці з задавальненнем лазяць па руінах. Часам знаходзяць нейкія косткі і хваляцца сваім сябрам, што гэта сапраўдныя, чалавечыя, а калі трошкі разгрэбці пясок, то можна нават знайсці сапраўдны чэрап. Праўда, сярод дзяцей ёсць і скептыкі, якія кажуць, што гэта курыныя косткі, якія засталіся тут пасля нечага пікніка.

Іншыя хлопчыкі тлумачаць, што адзін з прывідаў – не дама, а манах. Яны іх ніколі не бачылі, але чулі пра іх шмат.

Археолаг Марк распавядае пра прадстаўнікоў роду Сапегаў, якім некалі належаў замак. Успамінае і пра легенды, якія ходзяць вакол замка.

– Сам я аднойчы бачыў белую постаць дзяўчыны, але не на тэрыторыі замка, а далей у гарадзе, – кажа Марк. – А чорная цень аднойчы правяла мяне да самага дома, а пасля не давала спаць.

На руінах замка рабочыя не бачылі ніякіх прывідаў.

– Магчыма, калі паставіць раскладушку там, дзе раней былі спальныя пакоі, то нешта і пабачыш, – усміхаецца Марк. – Але так пакуль ніхто не рабіў.

### Дзеці ладзяць пікнікі, дарослыя прыходзяць па цэглу

Пакуль мы аглядаем замак, на вочы пастаянна трапляюцца мясцовыя дзеці.

Для іх гісторыка-культурная каштоўнасць – выдатная пляцоўка для альпінізму.

Падчас размовы чуем галасы зверху. Падымаем галовы і бачым: хлопчык з бутэлькай квасу ў адной руцэ і вафлямі ў другой караскаецца на адну з арак. Хутка да яго далучаецца другі. Хлопчыкі ладзяць там пікнік.

– **Ганяеце мясцовых дзяцей?** – пытаюся ў работнікаў.

– Вядома, ганяем, – адказвае археолаг. – Але толку ад гэтага мала. Я ім пастаянна кажу, што месца небяспечнае і цагліна на галаву можа ўпасці. Але каб яны слухалі! Праблема не толькі ў тым, што яны тут гойсаюць. Яны ж і бяруць адсюль усе, што хочуць. Калі прыязджае экскурсія, у іх хоць настаўніца ёсць, якая за імі сочыць. А калі дзеці мясцовыя – не буду ж я з бічом за імі ганяцца.

Руіны Гальшанскага замка – пляцоўка для гульняў не для аднаго пакалення дзяцей.

– Сам я таксама часта бавіў час тут, калі малы быў, бо жыву ў суседняй вёсцы, – прызнаецца Марк. – Але гадоў дзесяць таму тут усё выглядала інакш, цяпер шмат што зруйнавалася.

Руіны замка прыцягваюць не толькі дзяцей. На тэрыторыі колішняга замка ляжыць шмат старажытнай цэглы, якую рабочыя знаходзяць падчас раскопак. Яе згружаюць у асобныя вялікія кучы.

Успамінаючы гісторыю пра тое, як з цаглінаў Гальшанскага замка некалі пабудавалі кароўнік, пытаюся ў рабочых, ці прыходзяць па цагліны цяпер.

– Так, такое сустракаецца, – адказваюць яны. – За ўсім немагчыма прасачыць.

### Што чакае руіны замка – невядома

Калі глядзіш на сцены замка і бачыш цагліны, кожная з якіх нясе ў сабе гісторыю нашай зямлі, адчуванні ад гэтага вельмі моцныя. Некаторыя сцены выглядаюць так нетрывала, што здзіўляе, як жа яны яшчэ стаяць пад моцнымі вятрамі. Аркі выглядаюць вельмі крохкімі, але мясцовыя хлопцы ды і самі рабочыя не баяцца па іх хадзіць.

Але і ў такім выглядзе руіны замка застаюцца прывабнымі для турыстаў. Рабочыя гавораць, што да іх часта завітваюць не толькі беларусы, але і зацікаўленыя з Польшчы і Літвы.

– Пакуль магу сказаць дакладна, што захаваюць самую высокую вежу, – кажа Марк. – Яе будуць рэстаўраваць. Асноўную частку замка было б добра закансерваваць – пакрыць спецыяльным растворам, каб уратаваць ад ветру, дажджу і снегу. Але на гэта трэба вялікія грошы, якіх пакуль няма.

Пад канец нашага агляду на небе збіраюцца хмары. Ды і сіноптыкіперадавалі дажджы.

– **Трэба паціху хавацца, каб не змокнуць**, – кажу археолагу.

– Не хвалюйцеся, не змокнем: над замкам дождж ніколі не ідзе, – супакойвае Марк. – Колькі тут працую, ні разу не было нармальнага дажджу. Нават калі над Гальшанамі залева, тут толькі крыху капае. Такое гэта месца, са сваёй гістарычнай атмасферай, што і надвор’я непадуладнае.

**Шмат фота і відэа на сайце** erh.by



Аляксандра ПАРАХНЯ
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Настаўніца фатаграфуе сваіх вучняў на фоне Гальшанскага замка.

**АФІЦЫЙНА**

## Гальшанскі замак павінны аднаўляцца па дзяржаўнай праграме “Замкі Беларусі”

Праграма прынятая ў 2012 годзе і будзе дзейнічаць да 2018 года.

Дакумент прызнае, што большасць замкаў і рэштак замкавых збудаванняў у Беларусі знаходзяцца ў незадавальняючым стане. Для іх захавання прадугледжаныя ў асноўным кансервацыя і рэстаўрацыя. Усяго 38 аб’ектаў (з існуючых 1500) трапляюць пад дзеянне праграмы.

Гальшанскі замак уваходзіць у спіс з сямі аб’ектаў, на якіх у праграме запланаваная кансервацыя рэштак пабудоў. Асобныя збудаванні будуць прыстасаваны для арганізацыі музейных экспазіцый.

Гэтыя ж пункты тычацца і Крэўскага замка, які знаходзіцца ў Смаргонскім раёне.

У праграме тлумачыцца і тое, адкуль будуць брацца сродкі на кансервацыю і рэстаўрацыю. У выпадку з Гальшанскім замкам будуць выкарыстоўвацца бюджэтныя сродкі (ад Гродзенскага аблвыканкама і Міністэрства культуры), у тым ліку тыя, якія выдаткоўваюцца ў межах дзяржаўнай праграмы “Культура Беларусі” на 2011-2015 гады, а таксама сродкі, прыцягнутыя дабрачынным фондам “Любчанскі замак”.

Асноўныя работы ў Гальшанскім замку запланаваныя праграмай на 2012-2015 гады. Сума, якая пойдзе на добраўпарадкаванне руінаў замка, не называецца.

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# *Дзяніс Мятліцкі:* "Нарэшце ў каманды з'явіўся характар!"

## Выязная гульня скончылася з лікам 3:2.

**МАЛАДЗЕЧНА. Чарговы тур Другой лігі скончыўся для каманды "Маладзечна-2013" паражэннем.**

Пасля гульні мы звязаліся з галоўным трэнерам каманды **Дзянісам Мятліцкім**.

**– Гульня супраць каманды Жлобіна скончылася з лікам 3:2 на карысць саперніка. У вас ёсць што сказаць на гэты конт?**

– Па-першае, хачу падзякаваць камандзе. Мне гэта гульня вельмі спадабалася, нягледзячы на тое, што скончылася з такім лікам. Нарэшце я заўважыў у камандзе характар.

**– Распавядзіце падрабязней пра гульню.**

– На нашых варотах было ўсяго чатыры ўдары, тры з якіх мы прапусцілі. Два ўдары былі са штрафной, адзін з вуглавога. Вельмі крыўдна, што першы гол у нашы вароты сапернік забіў ужо на другой хвіліне матча. Але мае футбалісты рук не апусцілі, пра што сведчыць і тое, што два мячы мы ўсё ж адыгралі. Каманда "Маладзечна" была больш вартая гэтай перамогі. Але што здарылася, тое здарылася.

**– А каго-небудзь з футбалістаў лічыце вінаватым у паражэнні?**

– Не, пакуль я працую толькі метадам перніка. Няхай хлопцы выпрацоўваюць характар і адказнасць перад камандай.

**– Падтрымка з боку фанатаў адчувалася?**

– А як жа! На стадыёне было каля 50 нашых заўзятараў. Гэта вельмі прыемна.

**– Калі падвесці пэўныя вынікі, атрымліваецца, што ў першай і чацвертай гульні ў каманды паражэнні, у другой перамога, у трэцяй – нічыя. Значыць, у Баранавічах будзеце выйграваць?**

– Так, у Баранавічах і далей будзем выйграваць!

**– Падрыхтоўка пачалася?**

– Так. Запрашаю ўсіх на стадыён 8 чэрвеня. Матч пачнецца ў 18.30. Адным словам, спачатку на футбол, потым – на фестываль. Спадзяюся, маладзечанцы будуць святкаваць два святы. Фестываль і перамогу сваёй каманды.



Фота Наталі ТУР.

Чатырох гульняў сезона маладзечанцам хапіла, каб стаць сапраўднай камандай.

Вядома, што выязная гульня ў Жлобін была адной з самых далёкіх. Ведаючы няпростую сітуацыю з транспартам для каманды, задаём пытанне заснавальніку каманды **Дзмітрыю Ганчарову**.

**– Як вырашылася пытанне з транспартам на гульню?**

– На гульню ехалі за ўласныя сродкі. Асобная падзяка нашым заўзятарам за гэта. Спачатку нам сказалі, што каманда паедзе на аўтобусе аддзела фізічнай культуры і спорту Маладзечанскага райвыканкама. Але ў чацвер (за 2 дні да выезду) нам патэлефанаваў **Мікалай Шрымф** і паведаміў пра тое, што ў аўтобуса нейкія сур'ёзныя непаладкі. Ну што тут сказаць? Выйсце мы, вядома, знайшлі, а вось асадак застаўся.

**Наталля ТУР.**

МАСАВЫ ФУТБОЛ

## Школы змагаліся за перамогу ў футболе

**МАЛАДЗЕЧНА. Апошняя дэкада мая была аддадзеная спаборніцтвам па футболе, у якіх прынялі ўдзел каля трох соцень вучняў старэйшых класаў. У распараджэнні хлопцаў апынуліся стадыёны СШ №№ 1, 9 і гімназіі №10.**

Праграма круглагадовай спартакіяды школьнікаў горада і раёна сярод дзяржаўных устаноў сярэдняй адукацыі змяшчае турніры па розных відах спорту. Гэта і футбол з баскетболам, і лёгкая атлетыка з настольным тэнісам, і некаторыя іншыя віды.

Групу "А" утварылі ўсе пяць гімназій горада, матчы праводзіліся па кругавой сістэме. Прызавыя месцы размеркаваліся наступным чынам:

1. Гімназія №6.
2. Гімназія №10.
3. Гімназія-каледж.

Групу "В" склалі дванаццаць школ. Спачатку яны былі падзеленыя на чатыры падгрупы па тры каманды. Потым пераможцы падгруп прадоўжылі барацьбу ў фінальным турніры, дзе занялі такія месцы:

1. СШ №12.
2. СШ №5.
3. СШ №8.
4. Чысцінская СШ.

Група "С" аб'яднала пяць камандаў з вясковых школ. Прызёрамі сталі:

1. Турэц-Баярская СШ.
2. Радашкавіцкая школа-інтэрнат.
3. Маркаўская СШ.

Гульні абслугоўвалі дасведчаныя арбітры нацыянальнай катэгорыі **Ігар Крук** і **Віктар Дзмітрачкоў**, арбітры першай катэгорыі **Сяргей Карыцька, Сяргей Матусевіч** і іншыя. Метадыст фізкультурна-спартыўнага цэнтра дзяцей і моладзі **Анатоль Ішчанка** выконваў абавязкі галоўнага суддзі турніру.

Судзейская калегія вызначыла лепшых гульцоў. З іх можна было б скласці нават сімвалічную зборную вучняў маладзечанскіх школ. Гэта такія юнакі, як **Аляксей Вышынскі** (гімназія №10), **Піліп Філіповіч** і **Дзмітры Асанаў** (абодва – гімназія №6), **Арцём Бажко** (гімназія-каледж), **Герман Панкоў** і **Ян Дзмітрыеў** (абодва – СШ №12), **Аляксандр Палянскі** (СШ №8), **Уладзіслаў Гумянюк** (гімназія №3), **Станіслаў Штатгаўс** (Турэц-Баярская СШ).

Каманды-пераможцы і каманды-прызёры ўзнагароджаныя граматамі аддзела адукацыі райвыканкама, а лепшыя гульцы – вымпеламі аддзела па фізкультуры, спорце і турызме.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

НАВІНЫ СПОРТУ

## Першае ачко ў трох гульнях

**ВІЛЕЙКА**. На гарадскім стадыёне 2 чэрвеня адбылася гульня трэцяга тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе. "Вілія" сустракалася з камандай "Зорка РФАЦ-Вікторыя" з Пухавічаў. Завяршылася гульня з лікам 1:1. Госці забілі гол у сярэдзіне першага тайма, віляйчане зраўнялі лік на 80-й хвіліне, і "Вілія" зарабіла першае ачко ў трох гульнях.

Наступную сустрэчу віляйчане правядуць 9 чэрвеня у гасцях з камандай "Забудова-2007" (Чысць), паведаміў гуляючы трэнер "Віліі" **Алег Гулевіч**.

## Каманда "Буддэталі" заваявала Кубак

**ВІЛЕЙКА.** 30 мая завяршыліся гульні на Кубак Вілейскага раёна па футболе. У іх удзельнічалі сем камандаў, якія гулялі па кругавой сістэме. Уладальнікі першага і другога месцаў сустрэліся ў фінале. У ім каманда "Буддэталі" выйграла ў прадстаўнікоў СВК "Чурлёны" з лікам 3:1.

Трэцяе месца аспрэчылі каманды "Фламетр" і "Клуб аматараў футбола". У асноўны час матча футбалісты мацнейшых не выявілі: нічыя 0:0. А ў серыі пасляматчавых пенальці шчасце было на баку "Фламетра" – 3:2.

– Каманда "Буддэталі" пачала турнір слабавата, здавалася, што не зможа трапіць у фінал, – расказвае старшыня федэрацыі футбола Вілейскага раёна **Ігар Шабан**. – Аднак потым "Буддэталі" выйгралі чатыры гульні і... перамаглі ў фінале.

## За прызамі – на роліках

**МЯДЗЕЛ.** 1 чэрвеня, у Міжнародны дзень абароны дзяцей, у райцэнтры адбыліся спаборніцтвы па катанні на роліках. Удзельнічалі ў іх дзеці не толькі з Мядзела, але і з іншых куткоў раёна. Самай юнай удзельніцы спаборніцтваў – **Алісе Малько** – споўнілася шэсць з паловай гадоў.

У малодшай групе перамаглі **Маша Жыхар** і **Ілля Паўлоўскі**. У старэйшай групе лепшыя вынікі паказалі **Вольга Бакула** і **Антон Роўда**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Першакласнікі атрымалі футбольныя мячы

**МЯДЗЕЛ. 30 мая ў раёне прайшлі ўрачыстыя лінейкі з нагоды апошняга званка.**

На іх першакласнікаў са школ, размешчаных у вёсках і гарадскіх пасёлках, чакалі падарункі – футбольныя мячы ад Беларускай федэрацыі футбола і ААТ "Белаграпрамбанк". Уручылі іх у рамках акцыі "Падары дзіцяці футбольны мяч!", якая праводзіцца пры падтрымцы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Усяго на Мядзельшчыне мячы атрымалі 93 школьнікі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Камент-эксперт** rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**Як праводзяць апошнія вясновыя дні маладзечанцы (ФОТА)**

Вельмі цікава. Аўтар перадаў увесь настрой і прыгажосць апошніх вясновых дзянькоў. А то праз вокны на працы немагчыма убачыць усёй прыгажосці і святлыні! Дзякуй! *Zlata.*

Нарэшце тут з'явіліся арыгінальныя і нестандартныя рэпартажы. ***Ягор.***

**Пайшла з жыцця Алена Саламевіч**

Шкада, вельмі шкада, што з жыцця без пары адыходзяць такія цудоўныя БЕЛАРУСЫ. Мае спачуванні родным і блізкім. ***Алесь Раткевіч.***

**Матч "Маладзечна" супраць "Партызана-МТЗ"– 1:1**

Быў на матчы, але не хапіла цыгарэт! ***Генадзь.***



■ **ФЕСТЫВАЛЬ**

# Бітламаны аб'ядналіся на Валожыншчыне



Выступае сербскі гурт The Bestbeat.

Фота Уладзіслава ЮРКОВА.

**ВАЛОЖЫН. У панядзелак дзед Віця вярнуўся ў сваю родную вёску Лахаўшчына з цэнтра сельсавета. "Няма прадуктаў у Гародзьках!" – гарue ён. І не дзіва! На выхадных на суседнім хутары "Шаблі" праграмеў фестываль "The Beatles".**

Каля трох тысяч чалавек самага рознага ўзросту з усёй Беларусі ды не толькі таптала свежаскошаную траву пад сцэнай і ў ваколіцах, а таксама апустошвала крамы ў Гародзьках.

Ужо на ўездзе да тэрыторыі фестывалю нашу машыну разварнулі ахоўнікі – маўляў, няма месца на паркоўцы, пашукайце, дзе стаць у вёсцы. І дадалі, што гасцей прыехала ўдвая больш, чым разлічвалі, нават давялося тэрмінова дазаказваць біятуалеты.

Забаў хапіла на ўсіх. Тут не толькі можна было пачуць перапеўкі легендарных "The Beatles", а таксама папіць масалачай у індыйскім шатры, паглядзець кіно пра ліверпульскі гурт у адмысловай кінапавеці, прыкупіць творы народных майстроў, з вецярком пракаціцца па канатнай дарозе ды паспрабаваць сябе ў бразільскім танцы самба і баявым мастацтве капаэйра.

У планах быў яшчэ і запуск паветранага шара, з якога можна было агледзець узгоркі Валожыншчыны. Аднак моцны вецер, які здараецца на тых самых узгорках, зруйнаваў гэтыя планы.

Вяртаючыся пасля канцэрта ў вёску па машыну, мы сустрэлі мясцовую бабулю, якая павольі ішла побач з роварам.

– Падабаецца вам у нас?

– Вядома!

– Прыязджайце яшчэ!



Фота Уладзіслава ЮРКОВА.

Наведнікі маглі з вецярком пракаціцца па канатнай дарозе.

А як жа! Сёлета на хутары "Шаблі" пройдзе яшчэ некалькі фестываляў, самыя значныя з якіх – "Пікнік.by" і "Вольнае паветра".

**Аўгіня МАНЦЭВІЧ.**

■ **СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | 3 | 5 | | 2 | |
| 5 | | | | | | 8 | | |
| | 4 | | 9 | | | | 3 | 1 |
| | 6 | 4 | | | 1 | | | 3 |
| 2 | | | | | | | | 6 |
| 3 | | | 6 | | | 4 | 8 | |
| 8 | 3 | | | | 9 | | 4 | |
| | | 5 | | | | | | 8 |
| | 7 | | 5 | 2 | | | 1 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

■ **РЭПЕРТУАР**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Меладрама "**Вялікі Гэтсбі**", 3D (ЗША, Аўстралія, 2013, 2 серыі, для гледачоў, якім за 16 год)
7 чэрвеня – у 21.00
8 чэрвеня – у 15.30, 21.00
9 чэрвеня – у 15.30, 21.00
10 чэрвеня – у 21.00
11 чэрвеня – у 18.00, 21.00
12 чэрвеня – у 21.00
13 чэрвеня – у 18.00, 21.00
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў

Прэм'ера першага беларускага поўнаметражнага анімацыйнага фільма! "**Прыгоды Несцеркі**" (2012, без узроставых абмежаванняў)
7 чэрвеня – у 16.30
8 чэрвеня – у 14.00
9 чэрвеня – у 14.00
12 чэрвеня – у 16.30
13 чэрвеня – у 16.30
Кошт білета – 10 000 рублёў

Прыгодніцкі экшн "**Жалезны чалавек 3**", 3D (ЗША, Кітай, 2013, 2 серыі, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
7 чэрвеня – у 18.00
8 чэрвеня – у 18.30
9 чэрвеня – у 18.30
10 чэрвеня – у 18.00
12 чэрвеня – у 18.00
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыйныя прыгоды "**Марка Макака**" (Данія, 2012)
7 чэрвеня – у 17.30
8, 9 чэрвеня – у 16.00
Кошт білета – 15 000

Меладрама, камедыя "**Хлапечнік**" (ЗША, 2006)
7 чэрвеня – у 19.30, 21.30
8 чэрвеня – у 17.30, 19.30, 21.30
9 чэрвеня – у 17.30, 19.30, 21.30
10 чэрвеня – у 21.30
Кошт білета – 25 000 рублёў

Меладрама "**Пяшчота**" (Францыя, 2011)
11-13 чэрвеня – у 19.30, 21.30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

■ **ГАРАСКОП (7-13 ЧЭРВЕНЯ))**

**Авен.** Вы падвержаныя перападам настрою і нават не спрабуйце стрымаць раздражнення, калі бывае це не ў духу. Нельга сядзець без справы – менавіта ў бяздзейнасці вас спасцігаюць самыя нікчэмныя думкі.

**Блізняты.** Спатрэбіцца затраціць шмат энергіі на пераадоленне перашкод. Назірайце за знаёмымі і рабіце высновы.

**Цялец.** Вашы пачуцці бяруць верх над логікай, і гэта можа стаць прычынай вашых промахаў. Але ў вас ёсць магчымасць і сілы супрацьстаяць негатыўным момантам.

**Рак.** Узнікне жаданне вылучыцца з агульнай масы, заявіць пра сябе як аб унікальнай асобе, праявіць усе таленты і здольнасці. Выкарыстоўвайце свой дар, і тады прызнанне і высокая грамадская ацэнка не прымусяць сябе чакаць.

**Леў.** Нервовае перанапружанне не пагражае значна нашкодзіць арганізму. Сачыце за сваім псіхалагічным станам, наведвайце лазню. Сканцэнтруйце ўвагу на радасці.

**Дзева.** Важна, які ўплыў вы аказваеце на навакольных. Упартасць і непрыязнасць могуць прывесці да сумных вынікаў у спробах дасягнуць кампрамісу ў будучым.

**Шалі.** Вы гатовыя дапамагаць іншым людзям, але будзьце стрыманыя, інакш яны сядуць вам на шыю. І не спрабуйце рабіць больш, чым можаце.

**Скарпіён.** Не спяшайцеся, каб не нарабіць вельмі сур'ёзных памылак, выпраўленне якіх запатрабуе вашай увагі, усіх вашых сіл і вялікай колькасці часу.

**Стралец.** Калі вы сумуеце ў адзіноце, то лета выправіць становішча. Толькі трэба падрыхтавацца. Злёгку змяніце свой стыль – выніку доўга чакаць не прыйдзецца.

**Казярог.** Гэтыя дні тояць у сабе сюрпрызы рознай афарбоўкі. Не думайце, што вы можаце прадбачыць ход падзей. Проста будзьце асцярожныя.

**Вадалей.** Нельга проста так змяніць жыццё, але можна змяніць думкі, якія зменяць жыццё. Старайцеся неператамляцца. І не шкадуйце сябе, а любіце.

**Рыбы.** Вас чакае шчасце ў каханні. Рэдка можна назіраць такую ідылічную карціну на небасхіле.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт** erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## ■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Чаму людзі трапляюць у дом састарэлых?



**Вячаслаў Арлоўскі, фларыст:**

– Сталыя людзі найчасцей трапляюць туды, бо застаюцца без сваякоў. Наша беларускае грамадства варожа ставіцца да таго, што дзеці аддаюць сваіх бацькоў, але ж у іх ёсць розныя на тое прычыны. Асабіста я быў бы не супраць пад старасць пайсці ў дом састарэлых. Там ёсць усе ўмовы для жыцця сталых людзей.



**Артур Васільеў, дызайнер мэблі:**

– Калі адзіная альтэрнатыва дома састарэлых адзінота, калі чалавек адчувае сябе непатрэбным, калі няма каму падаць ваду ці лекі, тады я добра стаўлюся да гэтай справы. Умовы там такія ж, як і ў медыцынскіх установах. Было б лепш, каб у Беларусі з'яўляліся прыватныя дамы састарэлых.



**Вікторыя Рынкевіч, гаспадыня:**

– Бывае, што дзеці адмаўляюцца, часам адпраўляюць туды з-за кватэры. З аднаго боку, добра, што існуюць такія месцы, з іншага ж, дзеці павінны даглядаць тых, хто даў ім жыццё. Наўрад ці за імі там будуць даглядаць так, як за родным чалавекам.



**Дзяніс Галюк, фермер:**

– Галоўная прычына – узрост. Хутчэй за ўсё, гэта людзі, за якімі няма каму даглядаць. Дзяржава павінна клапаціцца пра такіх людзей. Напэўна, умовы там даволі добрыя. Ёсць каму і памыць, і накарміць.



**Алег Міхеенка, намеснік дырэктара краязнаўчага музея:**

– Часцей за ўсё туды трапляюць нікому непатрэбныя старыя людзі, часам і інваліды. Бывае, што і людзі, якія выйшлі з турмы і ім няма дзе жыць. Мяркую, гэта нармальна, калі старых даглядаюць там. На захадзе гэтыя дамы нібы санаторый, а ў нас, на жаль, іх нельга так назваць.



**Ганна Навумава, пенсіянерка:**

– Калі чалавека няма каму даглядаць, тады ён і ідзе ў дом састарэлых. А хто там хоча даглядаць старых, абмываць, парадкаваць? Лічу, што гэта ненармальна, калі дзеці туды аддаюць сваіх бацькоў.



**Зоя Сцяцко, пенсіянерка:**

– Старыя туды трапляюць з-за дрэннага выхавання дзяцей. У вайну такога не было, а цяпер моладзь не глядзіць за бацькамі. Хаця, на маю думку, умовы там даволі добрыя, ёсць усё неабходнае для жыцця чалавека.

**Падрыхтаваў Яўген КАРОСЦІК.**

## ■ НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +22 | | +14 / +22 | | +14 / +22 | | +17 / +19 | |
| | 743 | ↘ 1 | 741 | → 4 | 737 | → 7 | 736 | ↘ 9 |
| Вільня | +18 / +23 | | +14 / +22 | | +13 / +22 | | +12 / +17 | |
| | 751 | ↙ 2 | 748 | ↘ 2 | 746 | → 5 | 745 | → 6 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.39
Захад 21.43
Даўжыня дня 17.04

Усход 4.45
Захад 21.20
Маладзік




## ■ ПРЫКМЕТЫ

- "Прыйшоў Ерамей (13 чэрвеня) – больш не сей". Канец усялякай сяўбы.
- Чэрвень з касою па лугах ідзе.
- Першы туман лета – добрая грыбная прыкмета.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Хто стане пераможцам фестывалю "Адна зямля"? Хто атрымае Гран-пры? Чытайце не толькі ў наступным нумары "Рэгіянальнай газеты", але і на нашым сайце rh.by, у тым ліку анлайн.**

## ■ АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МЯДЗЕЛА



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Чатыры кошыкі баравікоў назбіраў у апошні дзень вясны жыхар Мядзела Мікалай Русаковіч.**

**– Першы раз у жыцці вясной баравікі збіраў: сапраўдная веснавое дзіва! – дзеліцца заўзяты грыбнік. – 28 мая паехаў у лес, каб венік звязаць. Дай, думаю, пахаджу па грыбных мясцінах, можа, якую лісічку знайду. А там – баравікі! Пэўна, штук трыста будзе. Гэта баравікі-каласавікі, яны звычайна з'яўляюцца, як жыта ў колас пойдзе, – тлумачыць ён. – Яшчэ як пад стол хадзіў, збіраў такія. Заўсёды неяк у пачатку ліпеня каласавікі прыносіў, а тут во як рана яны выскачылі. Каб мне хто сказаў, не паверыў бы. І як людзям гавару – не вераць. А ўжо як пакажу, у далоні пляскаюць.**







Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6250 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 23 (945) 7.06.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 505. Падпісана ў друк у 10.00 6.06.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.